**№ 81** Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.
Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

**№ 81** (173). Год II. Вільня, 9 кастрычніка 1917 г. Цэна **5** фэн. (**3** кап.).

## Жалезнадарожная забасто у кауРасеі.

### 8 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Баевая чыннасць у Фляндрыі між лесам Гутгольцт і дарогай Мэнін-Іпр у вечары шмат крапчэла. Пасьля сільнага барабаннага агня пачаліся мейсцовые штурмы англічан, каторые, аднак, былі адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Артылерыйская бітва між далінай Айет і плоскагор'ем Карні трывала з вялікай сілай. Вячорнае наступленьне францускіх рот пры Вогсэйён адбіто агнём. На ўсходзі ад Маасу—сільны агонь.

**Усходні тэатр:**

Без перамен.

---

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Ўсерасейскі камітэт жалезнадарожнікоў загадаў 7 кастрычніка ў поўначы пачаць агульную забастоўку. Выключэньне робіцца для паездоў ваенных і с правіянтам. Аднак, калі ўрад не уступіць, забастоўка абніме і паезды с правіянтам, якіе едуць на фронт.

ПЕЦЯРБУРГ. 7.X. У местовым ратушу ўчора сабраўся падгатавіцельны парлямэнт і выбраў за свайго маршалка Чхэідзэ. Бюро складаецца з 10 асоб, у тым ліку бышые міністры Авксент'ев і Чэрнов і большэвікі Троцкій і Каменёв. Цэрэтэлі прэдлажыў на тайным заседаньі разглядзець справоздачу камісіі аб перэгаворах з урадам у справе новай урадовай організаціі. Прэдлажэньне прынято перэвагой 105 проці 70 галасоў. Цэрэтэлі заявіў, што нарада з маскоўскімі прамышленікамі і кадэтамі шыбка дайшла угоды. Устаноўлено, што падгатавіцельны парлямэнт офіцыальна созван урадам і карыстае с права падаваць ураду запросы і вымагаць адказу, але ўрад перад ім не адпаведае за свае паступкі.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). На тайным заседаньні падгатавіцельнага парлямэнту Цэрэтэлі заявіў, што згодзіўся ўчыніць энэргічные крокі дзеля сазыву конфэрэнціі, каб перэглядзець умову разам с прэдстаўнікамі дэмократіі.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). 8.X. А з гадз. паабедзі пад маршалкоўствам Керэнскага адбылася нарада членаў ураду і прэдстаўнікоў дэмократычнай конфэрэнціі з буржуазнымі кругамі. Дайшлі поўнай угоду. Керэнскій заявіў, што ўрад гатоў ураз-же утварыць поўны габінэт, каб працаваць на умоўленых асновах.

ШТОКГОЛЬМ. Расейская соц.-дэм. партыя пастанавіла не прынімаць учасьця ў утварэньні коаліцыйнага ураду, бо яна ня можэ працаваць с правымі партыямі пры перамені аснаўных законаў.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. пастанавіў сазваць 2 лістапада другі з'езд усіх рад раб. і салд. Расеі. Рада раб. і салд. у сваей рэзолюціі жадае, каб ваенны міністэр вярнуў права палітычнай прапаганды у арміі і свабоду для ўсіх партый на фронці.

ГЭЛЬСІНГФОРС (П.Т.А.). Апавешчэны праекты законаў аб аб'яўленьні Фінляндзіі рэспублікай і аб адносінах між Фінляндзіей і Расіей. Іх будзе разгледаць сэйм. Другі закон пойдзе такжэ на разгляд і ў расейскі парлямэнт. Прэзыдэнт Фінляндзіі займець свае становішчэ 24 красавіка. Ўводзіцца агульная ваенная служба. Фінляндзія будзе звязана з Расеей толькі ў справах вайны і міра.

БЭРЛІН. Камісія Рэйхстагу с 7 членаў пачне нараду з імперскім канцлерам і членамі саюзнай рады дзеля аканчацельнай развязкі польскай справы.

БЭРЛІН. Чысло палонных расейцоў 30 верасьня дайшло:

| | | |
|---|---|---|
| у Нямеччыне | — | 1.212.007 |
| у Аўстрыі | — | 852.853 |
| у Боўгарыі | — | 5.559 |
| у Турэччыне | — | 10.280 |

БЭРН. Вядомы нямецкі „кароль электрычнай прамышленасьці", Ратэнаў, на пытаньне тутэйшых журналістоў, што ён думае аб канцы вайны, сказаў: „Пасьля таго, як нашэ другое мірнае прэдлажэньне адкінуто, я, на жаль, маю вельмі слабую надзею. Мы павінны бароцца далей. Увесь сьвет будзе кінут у страшэнствы беднасьці, пакуль народы сілай не здабудуць мір. Толькі народ здабудзе мір".

РОТТЭРДАМ. „New-Jork Herald" пішэ:

50 грамадзян места Мюльвэн, у Канзасе, ахвяравалі па 50 доляроў, як аснову капіталу ў мільён доляроў, каторы павінен быць выдан тэй асобе якой-хоч нацыянальнасьці, каторая заб'е нямецкага імператара.

Гэта — найнавейшы прыклад шалу ненавісьці, вызванай вайной.

## Край будзіцца.

Патрэбы кожнага народу не абмежываюцца вузкай сфэрай яго культурна-нацыональных патрэб. Мала таго, каб народ меў волю гаварыць, вучыцца і маліцца ў роднай мове сваей: гэта толькі невялікая частка таго, на чым асновываецца яго жыцьцё. Каб ісьці неустанна ўпярод, каб не адставаць ад сусьветнаго поступу, народ павінен стварыць сабе моцны фунтамэнт дзеля матэр'яльнаго дабрабыту, забаспечыць магчымасць расцьвету тэй зямлі, на якой жыве.

Гэта ў роўнай меры адносіцца да ўсіх народаў, а ў тым ліку і да беларусоў: бо мы, адбудоўваючы ад самых асноў нашэ культурна-нацыональнае жыцьцё, ня мелі дагэтуль магчымасьці ўзяць у свае рукі ўсе свае справы, бо краёвая гаспадарка апынулася ў руках чужых нам людзей—царскіх чыноўнікоў і нацыянальна-чужых нам „вышэйшых" станоў. І цяпер, калі мы гадаем аб будучыне, мы павінны абдумываць устройство нашай зямлі на такіх асновах, каб нашы народные массы ў еднасьці з грамадзянствах другіх нацыянальнасьцэй Краю мелі бы забаспечэнае права самым кіраваць краёвай гаспадаркай, якая павінна мець на мэці карысць не якой-будзь аднэй часткі насяленьня, а ўсяе нашай старонкі: бо толькі пры агульным расцьвеці краю паднімецца і наш дабрабыт.

Ладзючы новае жыцьцё, мы павінны організаваць яго на новых асновах ад нізу да верху, — значыць, пачынаючы ад грамады, воласьці, павету і канчаючы агульна краёвымі установамі. Само сабой ясна, што пры такой вялізарнай рабоці яе не магла-бы вясьці сваімі сіламі толькі адна з нацыональнасьцей, населяючых нашу Бацькаўшчыну: гэта—справа ўсіх грамадзян Краю, але грамадзян праўдзівых, каторые стаўляюць карысць нашай зямлі вышэй, чым карысць мо' і мілых іх сэрцу, цы чужых нам суседніх старонак і дзержаў.

Хоць гэта—зусім ясна кожнаму, хто хоць на момэнт удумаецца ў гэту справу, аднак, між намі аказаліся ажно дзьве нацыональные групы, каторые, асьлепленые нацыоналізмам, кожная асобне хочуць па-свойму развязаць пытаньне аб будучыне нашай Бацькаўшчыны, не агледаючыся на другіх. Мы ўжо пісалі ў сваім часі аб аслаўленым мэмор'ялі 44-х прэдстаўнікоў „усіх кірункоў польскай палітычнай мысьлі ў Літве" да нямецкага імперскага канцлера, дзе польскіе нацыоналісты ўселякай масьці дамагаліся далучэньня нашага краю да Польшчы. На гэткім жэ становішчы стануло і нацыоналістычнае літоўскае грамадзянство, ладзючы сваю аднабокую конфэрэнцію.

Мы не сумлеваемся, што як польскіе, так і літоўскіе палітычные комбінації—гэта плод нашых ненормальных варункоў жыцьця, плод старых нацыональных спорак і ўзаемнага недавер'я, плод „падпольнай" работы: шырокіе кругі грамадзянства, народные массы ня толькі не прынімалі ў гэтым учасьця, але нават і ня ведалі нічога аб тым, што жменя палітыкоў падгатаўляла бытцым-то ад імі Краю. І цяпер, каб бароцца з накіданьнем нашаму Краю тэй ці іншай аднабокай развязкі яго будучыны, трэба ўсе нашы справы вынасіць на суд самых шырокіх грамадзянскіх кругоў усіх нацыональнасьцей Краю.

Мы бачым ужо становучые крокі, зробленые ў гэтым кірунку, і трэба прызнацца, што за гэта мы павінны быць удзячны.... тэй жэ аднабокай літоўскай конфэрэнціі, каторая вызывае агульные пратэсты! Гэта—шчырая праўда: бо конфэрэнція збудзіла ўрэшці шырэйшы грамадзкі рух, прымусіла ўсе нацыональнасьці Краю заняцца справай яго будучыны і голасна—на публічных сходах, у друкаваным слове—высказаць свае пагляды і жаданьня. Конфэрэнція прымусіла беларускую, жыдоўскую і нават польскую дэмократію цясьней згуртаваць свае сілы і даць адпор розным нацыоналістычным апэтытам. Конфэрэнція, думаем мы, ў канцы канцоў прымусіць і літоўскіе дэмократычные массы вызваліцца с-пад кіраўніцтва нацыоналістоў. А пачаўшыйся гэтак агульны грамадзкі рух ужо не затрымаецца і—мы цьвёда верым—дойдзе спаўненьня ідэалоў дэмократії Краю.

*І. Мелешка.*

---

## Памяці Максіма Богдановіча.

З Расеі да нас дайшла сумная вестка аб сьмерці аднаго з найбольш выдатных паэтаў Маладой Беларусі, Максіма Богдановіча.

Ешчэ адна сьвежая магіла, — ешчэ адзін таварыш працы пакінуў нашы рады...

1915 г. над гандляром Глюксманам.

ЖЫЖМОРЫ. У пачатку жніўня тут, як кажэ дачка яго, Рахэль, прапаў гандляр Куцкель Апошні раз яго бачылі у Бэндзянскаго, у катораго ён купляў рыбу. Труп Куцкеля знайшлі ў рацэ Трава. Бэндзянскі прызнаўся, што гэта ён забіў Куцкеля ў хаўрусе с селянінам Міроновічам. Бэндзянскі памыкаўся пасьля ўцячы, але яго, даганяючы, забілі. Міроновіч прызнаўся, што забіў Куцкеля куском жалеза. У забітаго знайшлі толькі 9 руб. і знялі з яго боты. Міроновіч засуджэн на сьмерць.

СУВАЛКІ. «Suw. Nachr.» пад загалоўкам «Новая Эра» даносіць: „Скора ў нас будуць адкрыты крамы, дзе прадавацімуць на карты цукер, соль і іншые рэчы. Асаблівая увага будзе звернена на дастаўку апалу. Апрыч падвозу дроў організуецца падвоз торфу. Нашы грамадзяне могуць быць пераконаны, што гэтай зімой яны ня будуць цярпець ні голаду, ні холаду“.

СУВАЛКІ. У аднэй кабеты пры обыску ў хаці знайшлі 25 ф. мёду, рыбалоўные сеці, 50 ф. нітак, 3 кускі палатна і воўну. Усе гэтые рэчы сконфіскованы.

ДУБОЎЦЫ. Тутэйшы селянін купіў у Вялікіх Эйсьмонах каня, не маючы вымаганаго пазьваленьня ад Krejshauptmana. Купец аштрафован на 200 м., прадавец — на 100 м.

СОПОЦЬКІН. Адзін с тутэйшых вучыцелёў зрабіў фальшывы данос на інспэктара двара, бытцым той прысвоіў плату для работнікоў. За гэта вучыцеля аддалі пад суд.

МАР'ЯМПОЛЬ. 15 лістапада тут адкрываецца 4-месячны літоўскі вучыцельскі курс для асоб ад 17 да 30 гадоў.

ВЛАДЫСЛАВОЎ. 2 жніўня 1917 г. на шоссэ Шакі-Владыславоў у гандляра Г. забралі 600 шкляных баначэк с крысталічнай сахарынай, каторую ён купіў у аднаго селяніна ў Шаках за 1.500 м. Сахарына сконфіскована, а селяніна за контрабандную прадажу аштрафавалі за 300 м.

ГІЗЫ, владысл. пав. Тутэйшы найміт, Відравіч, за 600 марак прыняў на сябе віну нейкаго Геруляйта, катораго вінавацілі у кражы каровы. Яго засудзілі на 1½ году ў вастрог. С прычыны таго, што Геруляйт не даў яму грошы, Відравіч пажаліўся на яго уласьцям і выкрыў іх умову. Пры новым разглядзе справы суд апраўдаў Відравіча ў кражы каровы.

МІХАЛІН, пад Мар'ямполем. Пахтар тутэйшаго двара, Шмід, вярнуўся пасьля двохгадовай нябытнасьці. Гэты час ён правёў у ваколіцах Рыгі.

РЫГА. Тут гэтымі днямі памер доктар Гіркінсон, адзін з найбольш знаных у горадзі дактароў.

РЫГА. Прэтэнсіі у адносінах да асоб, прабываючых цяпер у Рызе, павінны быць заяўлены не пазьней 30 лістапада 1917 г. Пасьля гэтаго дня іх больш прынімаць пад увагу ня будуць.



### Колоніі Курляндзіі.

Пэўне ніхто не памятае і ня ведае, што некалі Курляндзія, як незалежнае гэрцогство, мела заморскіе колоніі і свой ваенны флот, даходзіўшый 40 караблёў. Першая колонія Курляндзіі—гэта остраў Тобакко, ў Малых Антылях. У 1650 гаду курляндзкі гэрцог Якоб купіў гэты остраў у англічан. У чародным 1651 гаду гэрцог Якоб паслаў евайго агента, Дэнігера, у Афрыку, на рэку Гамбію, дзе Дэнігер у аднаго нэгрскаго князя закупіў остраў сьв. Андрэя у усьці Гамбіі. Аднак, ужо ў 1658 гаду колоніі Курляндзіі былі заняты англічанамі, каторые іх сабе прысвоілі. Тады назаўсёды счэз курляндзкі флаг (рак на чырвоным фоне) з акіану.

ГОМЕЛЬ. 8.000 сабраных тут салдатоў адмовіліся ісьці на фронт і прабавалі пачаць разрухі. Калі іх акружылі казакі і драгуны, яны паддаліся.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ЛОНДОН. «Times» даносіць, што саюзьніцкіе ўрады заявілі ў Пецярбурзі аб сваей згодзі злажыць новые цяжкіе ахвяры дзеля перастройкі расейскай арміі, але с тэй умовай, каб надалей між саюзьнікамі і Расеей панавала згода і каб былі ўчынены крокі проці дэморалізаціі арміі.

ШТОКГОЛЬМ. Да часу устаноўленьня больш суроваго кантролю пашпартоў тымчасовы ўрад загадаў зачыніць расейска-шведзкую граніцу. «Падгатавіцельны парлямэнт», устаноўленьня катораго зажадала дэмократычная конфэрэнція, ня будзе мець правадаўчай сілы, а толькі дарадчы голас. У ім будзе 110 дэпутатоў ад земств.

На заседаньні бюро дэмокр. конфэрэнціі Керэнскій заявіў, што утварэньне чыста соцыалістычнаго міністэрства небаспечно для ўнутрэнаго ладу і заграгічных спраў, і жадаў коаліцыйнаго міністэрства. Інача ён выйдзе у адстаўку.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Рада раб. і салд. выбрала новы спаўніцельны камітэт і прыняла рэзолюцію, ў каторай між іншым сказано:

---

чарынкі, дзеўчаты пяюць запусные песьні. Ежа на гэты час павінна быць па магчымасьці тлустая. Запусты абычай вымагае правадзіць у разгульнай вясёласьці, і дзеля гэтаго ўсякіе маскарады, ігрышчы, банкеты і інш.—атрыбуты запуст.

### Закліканьне вясны.

Ад Саракоў (9-го марца) дзеўчаты пачынаюць збірацца на горках і вуліцах пеяць „весьнянкі“, заклікаючы вясну. У аснове тых песень ляжыць, перш за ўсё, пережытак мітычнай веры нашаго народу, што паміж цяплом і сьцюжай, сьвятлом і цемрай, жыцьцём сьмерцю вядзецца спрадвечная барацьба. Вораг — зіма спраціўляецца добраму сонейку, не паддаецца, пасылае свае апошніе марозы і завеі, але з дня на дзень слабее, бытцым бязсілее у змаганьні. І народ са спачуцьцём пачынае, па звычаю прадзедоў, выходзіць на ўзгоркі «выклікаць» вясну. І от у канцы яна, бытцым паслушная клічу, адзетая ў зялёную вопратку, едзе на залатым кані, асыпаючы сваю дарогу краскамі.

Але для беларуса весна ня толькі краса прыроды, але—главўным чынам — пара веснавых работ у полі, ад якіх залежыць увесь яго дабрабыт. Дзеля гэтаго фантазія беларуса надзеляе вясну атрыбутамі ратайства: яна сядзіць на сасе, рые маці-зямліцу, сее збожжэ і смыком скародзіць засеянае. Яна пасылае частые дожджыкі; а ў залатым кані нятрудна дабачыцца аднаго с сымвалоў сонца.

**Вялікадні**. Да асобнасьцей сьвяткаваньня ў Беларусі Вялікадня трэба палічыць хаджэньне ад хаты да хаты валачобнікоў, якіе за слаўленьне гаспадароў дастаюць «дары». Хор валачобнікоў складаецца ня толькі з бедных, але і людзей заможных, што ачышчае валачобнікоў ад падазрэньня ў жэбрацтве. Павадыром хору бывае «пачынальнік» — запевала і музыка; апрыч таго ёсць ешчэ механоша, які носіць дары, а рэшта называюцца «падхоратнікамі». Падыйшоўшы ўсей грамадай пад вакно, пачынальнік пяе пад музыку, най часьцей скрыпку, валачобную песьню, а падхватнікі апасьля кожнаго верша выкрыкаюць хорам прыпеў: «Хрыстос сын Божы, Хрыстос», або: «Зялён явар», і іншые. Дораць ім грошы, сыры, збожжэ і вялікодные стравы. С сабраных дароў устраіваецца агульны для ўсіх валачобнікоў банкет.

У змесьці валачобных песень німа нічога такога, што паказывалобы на хрысьціянскае значэньне сьвята, калі не лічыць прыпева «Хрыстос Сын Божы».

Вялікаднем пачынаецца ратайскі год, і вялікодные песьні немаль скрозь пасьвячэны апеваньню ратайскай працы. У іх пяецца аб тым, якое ўчасьце прыймаюць у ратайскай працы сьвятцы: як Саракі ў поле саху валаклі, а сьвятое Благавешчэньне заворывало, як сьв. Юры, Божы ключнік, зямлю адмыкае, расу выпушчае; сьв Барыс ляды паліць, а сьв. Мікола па межак ходзіць, жыто родзіць. Адным словам, большая палавіна вялікодных песень выяўляе сабой ратайскі календар; другая часць гэтых песень выслаўляе гаспадара. і яго сям'ю.

Нідзе ў беларускіх песьнях не адводзіцца гэткае пачэснае мейсцо ратайскай працы, як у валачобных. Гэта паказывае, што песьнямі гэтымі нашы прадзеды славілі наступленьне «вялікіх дзён», панаваньня сонца, пачатку напольных работ, дзён, мабыць пасьвячоных сонцу і іншым ратайскім божышчам, асобнасьці якіх перанесены на сьвятых хрысьціянскіх.

Сьвяткаваньне Вялікадня не аграгічываецца трэмя днямі, як гэта устаноўлено хрысьціянскім канонам, а цягнецца шмат далей: серэда вялікодная сьвяткуецца ад граду, чэцьвер ад грому, пятніца ад посушы, субота ад упаду на статак. Трэба ешчэ адмеціць, што названьне Вялікадні адносіцца да ўсіх сьвят, пачынаючы ад Вялікадня да сьв. Міколы.

